# Тыднёвік Магілёўскі




№ 31 (95) 11-17 жніўня 2000 г. Кошт 50 руб.

ЭКАНАМІЧНЫ ПОГЛЯД НА ЖНІВО

## Заклікі і загады – рэсурсы ненадзейныя






*На сэлектарнай нарадзе Аляксандар Лукашэнка паставіў перад хлебаробамі задачу – сабраць сёлета 6 млн. тонаў збожжа. Але ці будзе выкананае гэтае заданьне, і ці сапраўды Беларусь атрымае рэкордны ўраджай?*

*На сёньня ёсьць дзьве агульныя перадумовы, якія вызначаюць хаду любых сельскагаспадарчых работ, тым больш жніва. Гэта крызыс рэальнага сэктару эканомікі ў цэлым і поўны заняпад сельскае гаспадаркі.*

*Заняпад вёскі можна выразна паказаць на прыкладзе Гарадзенскае вобласьці – перадавой у краіне ў аграрным сэктары (таму, відаць, днямі Лукашэнка і наведаў заходнюю Беларусь, каб дадаць вяскоўцам працоўнага настрою, а народу – упэўненасьці ў заўтрашнім дні). Дык вось, тут на пачатак жніва было назапашана толькі 11% дызэльнага паліва й 9% бэнзыну ад патрэбнага. У калгасаў няма грошай, затое ёсьць даўгі. Толькі "Белнафтахіму" гаспадаркі вобласьці завінаваціліся 815 млн. рублёў. Такія грошы няма адкуль узяць.*

*Што ўжо казаць пра эканамічнае забесьпячэньне жніва ў іншых вобласьцях, напрыклад, у Віцебскай і Магілёўскай, якія заўсёды былі адсталымі…*

*Днямі кіраўнік эканамічнае ўправы Міністэрства сельскае гаспадаркі Сямён Шапіра назваў дзьве цікавыя лічбы. Менавіта: ад падвышэньня закупачных цэнаў на малако, збожжа ды іншыя прадукты аграрнікі атрымаюць 150 млрд. рублёў, а ад падвышэньня цэнаў на рэсурсы страцяць 360 млрд.*

*З прычыны недахопу грошай на палёх краіны працуе толькі 14 тысячаў камбайнаў, або 76,5% іх агульнае наяўнасьці. На рамонт рэшты, а тым болей набыцьцё новых, няма грошай. На 3-е жніўня ўбрана 16% плошчаў збожжавых. Намалочана 1200 тысячаў тонаў збожжа, па 25 цэнтнэраў з гектару. Прычым, гэта бункэрная вага, такім чынам, у сьвірны паступіць меней як 1 млн. тонаў. Зразумела, што кожная наступная частка ўбранага поля, як і ў папярэднія гады, будзе даваць усё меншы збор. Агульная ўраджайнасьць зьнізіцца з-за ўсходніх рэгіёнаў краіны, дзе ўмовы жніва і ягонае забесьпячэньне традыцыйна горшыя.*

*Галоўныя прычыны павольнае хады жніва – зношаная тэхніка й перабоі з палівам. На сёньня на 40% ня вырашаныя праблемы аплаты рэсурсаў, найперш за паліва. І так ва ўсіх вобласьцях.*

*Ня вырашаныя праблемы стымуляваньня працы на жніве. Бо запазычанасьць у аплаце працы не скарачаецца, а расьце, і на пачатак жніўня перавысіла 19 млрд. рублёў… Так што дай нам Бог сабраць збожжа агулам хоць бы каля 4 млн. тонаў.*

***Уладзімер КУЛАЖАНКА, прафэсар***
***г.Менск***

НЕБЯСЬПЕЧНАЕ ЗДАРЭНЬНЕ Ў БАБРУЙСКУ

## Бандыцкі напад на моладзевы летнік

Бабруйская філія арганізацыі "Маладыя сацыял-дэмакраты" наладзіла летнік, што меўся адбыцца з 2-га па 6-е жніўня. Удзел у ім узялі хлопцы ды дзяўчаты з Маладога Фронту, "Грамадзянскага Форуму", Беларускай Партыі Свабоды, а таксама "неарганізаваная" моладзь.

Летнік у маляўнічым месцы на Бярэзіне быў упрыгожаны нацыянальным бел-чырвона-белым сьцягам, а ягоная тэрыторыя набыла назву "Вольная Краіна". Ейныя жыхары атрымалі адпаведныя пасьведчаньні-пашпарты. Другога дня жніўня, пасьля прыбыцьця на месца, была праведзеная прыборка тэрыторыі, а ўвечары адбылася дыскатэка ля вогнішча. З раніцы наступнага дня адбыліся выбары прэзыдэнта і парлямэнту Вольнай Краіны, а таксама прынятая Канстытуцыя і Крымінальна-адміністратыўны кодэкс, які складаўся з трох артыкулаў: Не забі; Не ўкрадзі; Не вымаўляй непрыстойных словаў. Пад бел-чырвона-белым сьцягам прайшоў футбольны турнір, а ў другой палове дня ўдзельнікі праслухалі лекцыю па гісторыі Беларусі.

У трэці дзень была абраная "Міс Лета-2000", пасьля чаго вольныя жыхары краіны накіраваліся ў вёску Даманова зьбіраць фальклёр. Было сабрана даволі шмат эксклюзыўнага матэрыялу, у прыватнасьці, пра паходжаньне назову вёскі. Пасьля вячэры моладзь абмеркавала праблемы экалёгіі Беларусі й свайго раёну ў прыватнасьці.

І вось наступіў перадапошні дзень існаваньня Вольнай Краіны, які стаўся для яе, на жаль, апошнім… Раніца была як раніца, ды й распачалася звычайна – са сьняданку. Потым частка моладзі зноў адправілася ў вёску, а астатнія займаліся хто чым. Бліжэй да абеду на паўвысьпе, дзе разьмясьцілася моладзь, зьявіліся дарослыя дзядзькі з стрэльбамі, якія адразу выклікалі насьцярожанасьць. Яны відавочна намагаліся справакаваць удзельнікаў летніку на канфлікт. Калі тое не ўдалося, узброеныя людзі пачалі здымаць летнік, сьцяг і ўсіх прысутных на відэакамэру, якая пры іх была. Моладзі патлумачылі, што супрацоўнікі ўпраўленьня ўнутраных справаў *(так назваліся няпрошаныя госьці)* маюць на гэта права.

Выглядала на тое, што заставацца на апошнюю ноч было б небясьпечна, і прэзыдэнт ВК распарадзіўся аб зборы на вяртаньне ў горад. Раптам у летніку, пакуль моладзь слухала распараджэньне, прагучаў… стрэл. Адзін з наведвальнікаў стрэліў з драбавіка па нацыянальнаму сьцягу. Шрот зрыкашэціў у калена дзяўчыны, якая ў гэты момант, вяртаючыся зь вёскі, выходзіла зь лесу. На шчасьце, ад сур'ёзнай траўмы яе выратавалі джынсы. Калі моладзь сыходзіла, уздагон ёй ляцела брудная лаянка ды пачуліся самае малое яшчэ тры стрэлы…

Па факту здарэньня сябры бабруйскіх моладзевых дэмакратычных арганізацыяў падалі адпаведныя заявы ў мясцовую пракуратуру й Беларускі Хельсінскі Камітэт.

***Уласная інфармацыя***

***P.S. На дзень выхаду газэты пракуратура на заяву не адрэагавала.***



**Радзіма. Страта бацькоў, родных, мужа. Эміграцыя. Палітыка. ГУЛАГ… А перадусім паэтычнае Слова і Бацькаўшчына.**

**9 жніўня Ларысе Геніюш споўнілася б 90 год .**

* * *

*Рукой хтосьць чорнай дакрануўся крыльляў*
*і струн душы, і струны не зьвіняць.*
*Зноў груганы свабодны лёт спынілі,*
*на шлях свой чорны збавіць наравяць.*
*Я ад зямелькі крыльлем адаб'юся*
*і абміну ў палёце чорны жах.*
*Ўзьлячу душой са сьцежак Беларусі*
*на недасяжны, на паднебны шлях!*
*Ніхто ня вольны раіць нам, ні сватаць,*
*пакутамі скарочваць нашы дні.*
*Свая туга, свае шляхі ў крылатых,*
*і праўды сьвет ясьнейшы з вышыні.*

## Калі няма чаго рабіць…

8-га жніўня па павестках, з інтэрвалам у паўгадзіны, у Крычаўскую міжрайпракуратуру былі выкліканыя Л.Сьвецік (рэдактар газэткі "Наша думка"), С.Грышын (рэдактар бюлетэню "Крычаўскі праваабарончы весьнік"), К.Шувалаў (нядаўні рэдактар "Маладзёжнага кур'ера"). Што здарылася?

Падчас размовы з памочнікам пракурора Г.Новікавым высьветлілася, што прычынай выклікаў і допытаў гэтых людзей стала "бумага", якую пракуратура атрымала з абласнога Дома друку. У ёй утрымлівалася скарга на тое, што рэдактары названых мясцовых выданьняў не дасылаюць асобнікаў ва ўпраўленьне па друку, як гэтага патрабуе арт.27 Закона аб сродках масавай інфармацыі.

Пракуратура была вымушаная правесьці адпаведнае дасьледваньне. Спатрэбіўся час і службовыя намаганьні, каб нарэшце "устанавіць", што на незарэгістраваныя выданьні накладам да 300 асобнікаў гэтае правіла не распаўсюджваецца (пра тое ў Крычаве ведае, здаецца, кожны старшакляснік). Менавіта такімі выданьнямі ёсьць усе пералічаныя вышэй.

***Сяржук ГРЫШЫН***



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Усё ж дачакалася нашае начальства: сёлетнія "Дажынкі", што мінулым годам адмяніліся з-за нізкіх вынікаў сельскай гаспадаркі, пройдуць у Шклове! (клічнік, зразумела, ня мой, а іхны). Што лепшага адбылося за гэты год – ня ведаю. Здаецца, занялад не пераўтварыўся ў росквіт, дэфіцыты, а яшчэ больш цэны на харчовыя вырабы працягваюць пэрыядычна нэрваваць гаспадыняў, сяляне па паўгады, а то й болей не атрымліваюць заробкаў, якія не перавышаюць штомесячных 10$... Мажліва таму і спатрэбілася сьвята, каб людзі не ўспрыймалі сытуацыю як катастрафічную.

У вобласьці маецца ў наяўнасьці толькі 4-дзённая норма паліва. Гэта на ўсё: на сельгаспрацы, на грамадзкі і прыватны транспарт, на камунальныя службы (магілёўцы, мусіць, ужо заўважылі, што ў многіх кватэрах не заўсёды ёсьць гарачая вада). Усе рэсурсы кінутыя на вёску: жніво. Можа яна, вёска, верне запазычанае ўвосень? Ага! Цэны, якія на ўсё падвысяцца, можа і вернуць частку крэдытаў. Калгасная вёска трывала прызвычаілася да рэжыму безадказнасьці. Сёньня, напрыклад, з амаль мільярднай (!) абласной запазычанасьці за паліва 600 мільёнаў належыць калгасам і саўгасам.

Касьцюковіцкі цэмэнтны завод сьвяткуе вялікую падзею. Прадпрыемства пачало выпускаць сваю прадукцыю па эўрапейскіх стандартах, г. зн. у запакаваным выглядзе, і можа цяпер прадаваць цэмэнт напрамкі за мяжу. А дагэтуль попытам цэмэнт карыстаўся толькі ў нас. Было ня так істотна, што пры гэтым якасьць яго зьніжалася й па дарозе значная частка цэмэнту гублялася. Нашаму спажыўцу ня якасьць падавай, а нізкія кошты. Так што мадэрнізацыя вытворчасьці – гэта добра, але айчыннаму будаўніку што да таго...

Шалёны вецер, громы і маланкі на мінулым тыдні ўразілі жыхароў нашай вобласьці. Разбуральная стыхія прайшлася па Магілёўшчыне і нарабіла справаў. У абласным цэнтры шэраг дамоў былі падтопленыя, па некалькі гадзінаў не працаваў грамадзкі транспарт з-за вялізных лужын. У раёнах асабліва адчувальныя страты панесла, натуральна, сельская гаспадарка. Спэцыялісты грамадзянскай абароны вылучаюць як самы пацярпелы Чавускі раён. Вецер пазрываў дахі, паваліў лініі электраперадачаў, навесы. Што і колькі згублена – падлічваецца. Адзначу іншае: бедная дзяржава ня здольная эфэктыўна супрацьстаяць прыродным навалам. Шмат дзе не пасьпелі яшчэ разабрацца з наступствамі мінулых навальніцаў, а тут новая. Не хапае людзей, сродкаў і матэрыялаў як на супрацьў стыхіям, так і на ліквідацыю іхных пасьледкаў.

Хоцімск нічым асабліва не вылучаецца сярод астатніх раёнаў вобласьці. Як усюды, так і там. Аднак па некаторых паказчыках раён апярэджвае ўсіх. Напрыклад, тэхніка, якая зараз на палёх, выпрацаваная ўжо на 96%. З пачатку жніва тут дарэмна чакаюць новых камбайнаў і трактароў "з цэнтру". Не хапае падрыхтаваных мэханізатараў. Улады камплектуюць мэханізатарскія атрады з супрацоўнікаў розных раённых установаў.

Старонкі дзяржаўных газэтаў запоўнілі сьпісы акруговых выбарчых камісіяў. А па гарадах і вёсках распачалося раскіданьне стосаў макулатуры, якая лічыцца перадвыбарчай друкаванай агітацыяй. У абласным цэнтры насельніцтва ў гэтым перамагае выкладчык, вялікі прыхільнік бягучай прэзыдэнцкай палітыкі Руслан Ігнацішчаў, які (ці ягоная каманда) беражліва сабралі ўсё, што раней друкавалася ў прэсе за ягоным подпісам і разьвезьлі велічэзныя стосы паперы па дварах і пад'ездах ні ў чым не павінных грамадзянаў. Вось такі ПІАР па-магілёўскі...

Бабруйскія прадпрыемствы даслалі ў сельскія раёны вобласьці 150 грузавых аўтамабіляў разам з кіроўцамі. Так загадала ўлада. І прамысловасьць, якая ўжо даўно здалася бяз бою начальству, бездакорна выканала загад. А зь іншага боку, прамысловасьць на 60% працуе "на склад", можа няхай крыху перадыхне. Цяпер галоўнае – хлеб сабраць, кармы назапасіць. Пад гэтае дзіўныя рэчы адбываюцца. Напрыклад, бабруйскі шынны камбінат даслаў на вёску трох камбайнэраў! Магчыма, іх спэцыяльна узялі на працу, каб было каго накіраваць у камандзіроўку. Яшчэ больш дзівам падаецца інфармацыя пра ўдзел у сельгасклопатах, напрыклад, Цэнтральнага ўнівэрмага. Не зьдзіўлюся, калі падшэфныя гаспадаркі зьявяцца ў абутковай майстэрні альбо кухні дзіцячага харчаваньня.

Днямі, пратэстуючы супраць затрымкі заробку, мэдыкі 4-й магілёўскай дзіцячай паліклінікі пачалі прыём пацыентаў на гадзіну пазьней. Грошы, як водзіцца, адразу знайшлі й выплацілі. Сама ўлада такім чынам і паказвае надзейны шлях абароны чалавечых правоў.

*Да сустрэчы,*
*Сымон Глазштэйн.*

## У зачыненыя дзьверы дастукацца будзе нялёгка

Гэтыя здымкі сьведчаць пра шчырае імкненьне дэлегацыі Парлямэнцкай Асамблеі Савета Эўропы аб'ектыўна разабрацца ў перадвыбарчых беларускіх абставінах. Насёньня яна зьехала з краіны, зрабіўшы заяву аб тым, што ня мае намеру рэкамэндаваць сэсіі ПАСЭ паставіцца да маючых адбыцца ў нас парлямэнцкіх выбараў лагодна і паважліва. Сустрэчы з афіцыйнымі асобамі краіны, прадстаўнікамі апазыцыі, наведаньне за кратамі спадароў Кудзінава і Клімава (былых дэпутатаў легітымнага пасёньня Вярхоўнага Савета, чые крымінальныя прысуды матываваныя палітычнымі абставінамі) вымусілі эўрапейскую дэлегацыю зрабіць адзіна правільную выснову: беларуская ўлада не выконвае міжнародных дамоўленасьцяў у галіне правоў і свабодаў чалавека, маркуе правесьці восеньскія выбары паводле сваіх правілаў, далёкіх ад дэмакратызму і забесьпячэньня роўных умоваў для ўсіх удзельнікаў гэтай кампаніі. Тым часам сэсія ПАСЭ мае намер вызначыцца адносна выбараў у Беларусі і, у прыватнасьці, па пытаньню накіраваньня на іх сваіх назіральнікаў не пазьней за жнівень, тым самым пакідаючы для нас пакуль, як гаворыцца, дзьверы адчыненымі. Аднак, па ўсяму відаць, Лукашэнка не зьбіраецца імі скарыстацца...

*Фота IREX*








## Дзе зьберагаць грошы

***Працоўныя будні аддзяленьня "Інфабанку" азмрочылі ягоную шыкоўную прэзэнтацыю.***

Аддзяленьне "Інфабанку" распачало ў Магілёве сваю дзейнасьць дзякуючы намаганьням дырэктара аўтамабільнага заводу імя Кірава Аляксандра Лакізы. Прадпрыемства аджалела і адрамантавала для патрэбаў установы частку свайго гістарычнага будынку, правяло рэклямную кампанію ў мясцовай прэсе й на тэлевізіі. Рабочых афармляць рахункі ў новым банку прымушалі аж да пагрозы выклікаў да начальнікаў цэхаў. За гэта завод спадзяецца атрымаць фінансовую дапамогу, якая сапраўды абяцаная. Аднак першая ж пасьля прэзэнтацыі супольная акцыя партнэраў азмрочыла іх добрыя адносіны.

29 ліпеня, калі была абвешчаная нарэшце выплата заробку, некалькі сотняў чалавек з самай раніцы сабраліся на пляцоўцы перад банкам. Прычынай ажыятажу стала звычайная неабавязковасьць адміністрацыі МаАзу. Згодна калектыўнай дамовы, разьлічэньні з працоўнымі павінны ажыцьцяўляцца не пазьней за 12-е чысло кожнага месяцу (першая частка заробку) і да 21-га (канчатковы разьлік). Насамрэч так бывае не заўсёды. Таму за свае кроўныя людзям выпадае ня толькі ля станка працаваць, але і ў нэрвовым натоўпе ў касу павалтузіцца.

За дзень магілёўскае аддзяленьне "Інфабанку" ня здольнае абслужыць больш за 700-800 чалавек. Нават пры спрыяльных умовах. Да такіх тыя, што склаліся ў суботу 29 ліпеня, аднесьці было ніяк не магчыма. Паколькі ў памяшканьне дапускалі толькі па 2-3 чалавекі, нецярплівы натоўп ладна ціскануў на дзьверы. Тыя затрышчалі. Атмасфэра напалілася настолькі, што вартавы міліцыянт выклікаў ОМОН. Але ў дужых шварцэнэгераў таксама не хапіла сілаў, каб супрацьстаяць пралетарскай навале, і яны былі імгненна зьмеценыя з ганку.

У натоўпе было чуваць сьціснутыя крыкі. Пацярпелай у штурханіне жанчыне выклікалі "хуткую дапамогу". Мужчына выбраўся з натоўпу басанож і абадраны. Хваляваньне народу дасягала мяжы...

Супакоіць людзей спрабавала намесьніца дырэктара МаАзу Натальля Анупрыенка. Аднак тое было запозьнена, бо вынікам ейнага ўмяшальніцтва сталася брудная лаянка зь непахіснага натоўпу. Банк нагадваў крэпасьць у аблозе. Усё ж некаторым працаўнікам заводу ў гэты дзень пашчасьціла пакінуць "месца бою" цэлымі й нават не з пустымі кішэнямі. А апошнія з тых, каго адміністрацыя заводу пераканала адкрыць рахункі ў "Інфабанку", атрымалі свае заробкі толькі ў аўторак, 1 жніўня. Дарэчы, некаторыя з новых банкаўскіх кліентаў зьдзіўлена пабачылі ў паперах, што рахункі яны афармілі яшчэ 2 красавіка, калі менаванага банку ў Магілёве ўвогуле не было.

...Зараз легкаверныя й падатлівыя рабочыя МаАзу адбіваюца ад кпінаў тых, хто хутка й без праблемаў атрымалі свае заробкі ў надзейнай ашчаднай касе.

*Аляксандар АЛЕКСАНДРОВІЧ*



## АБ'ЯВА

**У Магілёве адчыненая грамадзкая прыёмная, дзе можна атрымаць бясплатную кансультацыю па пытаньнях абароны правоў чалавека.**

**Кансультуе грамадзянаў юрыдычная група мясцовага аддзяленьня Беларускага Хельсінскага Камітэту і Магілёўскага праваабарончага цэнтру.**

**Адрас: 212030, г. Магілёў, вуліца Ленінская, дом 27, пакой 57 (памяшканьне МГА «Гуманітарная ініцыятыва»).**

**Кантактны тэлефон: 25-90-91.**

(Працяг тэмы на 8-й стар.)

*“Тыднёвік” працягвае цыкль перадвыбарчых публікацыяў. Гэтым разам на першаснае месца па важкасьці праблемы выходзіць тэма міжнароднага назіраньня. Справа ня толькі ў тым, што самое па сабе яно можа аказаць станоўчы ўплыў на выбарчы працэс. У прысутнасьці міжнародных назіральнікаў альбо адсутнасьці іх хаваецца больш прынцыповая праблема: прызнаньня альбо непрызнаньня саміх выбараў. Прапануемыя артыкулы даюць падставу пра гэта падумаць.*

# Памяць і забыўлівасьць

Хутка ўсіх нас паклічуць да выбарчых урнаў. Многія з нас яшчэ памятаюць савецкія выбары. Варта нагадаць каротка пра іх тым, хто ня ведае альбо забыўся. Нездарма існуе аксыёма, што той, хто забываецца на сваё мінулае, не жадае альбо ня ўмее браць зь яго станоўчыя ўрокі, рызыкуе перажыць яго яшчэ раз з усімі ранейшымі непрыемнасьцямі і ўскладніць сваё бягучае і будучае жыцьцё. Таму адразу адказна пазначу: некалькі пакаленьняў савецкіх людзей ніколі й нікога не выбіралі. Яны былі ўдзельнікамі – статыстамі ў маляўнічым масавым прадстаўленьні, якое мела назву "усенародных выбараў". Усё гэта плянавалася, разьмяркоўвалася, адпрацоўвалася ў цішыні партыйных кабінэтаў. Асноўнай дэтальлю тагачасных выбараў былі, зразумела, кандыдаты на дэпутаты розных узроўняў. Яны вызначаліся ў тых жа кабінэтах і, калі праходзілі шматбаковую праверку адпаведных органаў, – іх вялі на прадпрыемствы, у гаспадаркі, працоўныя ды іншыя калектывы для вылучэньня. Паколькі народ верыў (а гэта ўтульна і неклапатліва), што за яго думаюць, прымаюць заўсёды "правільныя рашэньні", вылучэньне кандыдатаў адбывалася лёгка, узнёсла, адзінадушна. У рэдкіх выпадках хто-небудзь адважваўся выказаць так званы "наказ", каб тут жа пачуць адпаведнае абяцаньне, што кандыдат толькі і думае як бы выканаць "народную волю"... Урэшце надыходзіў дзень выбараў (ці як тады казалі: сьвята сапраўднай дэмакратыі). Усе дружна тупалі на выбарчыя ўчасткі. Той, хто прыходзіў першым, мог набыць у буфэтах тое-сёе з "дэфіцыту", папіць без чаргі і ў прыстойным памяшканьні піўка. На выбарчых участках грала музыка, выступалі дзеці, круцілі кіно. Выбаршчыкі атрымлівалі бюлетэнь з прозьвішчам падзабытага кандыдата, а мо й ня чутага ніколі. Галоўнае, што ў яго (кандыдата) ніякіх супернікаў не было, у бюлетэні стаяла толькі адно прозьвішча. Заставалася пачакаць дзень-два – і абвяшчаліся вынікі "чарговай перамогі дэмакратыі": 99,9 % – "за"! А потым ужо выбраныя дэпутатамі (а іншых, яшчэ раз нагадаем, ня мелася) пачыналі шчыраваць за "за народ" на сэсіях – ад мясцовых саветаў да Вярхоўнага. Асноўнай задачай было адзінагалосна прагаласаваць за тое, што было падрыхтавана ізноў жа ў цішыні адпаведных кабінэтаў... Цяпер ведаем, чым гэта ўсё скончылася. Але ці скончылася для нас, беларусаў, ці скончылася ў нас, у Беларусі?

Скананьне процінатуральнай сыстэмы – гэта пытаньне часу. Але гэты час – кароткі ці доўгі – час жыцьця людзей, канкрэтных, рэальных, якім часта не да тэарэтычных развагаў і філязофскіх высноваў. І ўсё ж зусім без развагаў не абыйсьціся.

Беларуская маладая дзяржава пасьпела за свой кароткі час прыняць Канстытуцыю новай дэмакратычнай прававой краіны. Найпершае, што яна вызначыла – гэта падзяліла ўладу на заканадаўчую, выканаўчую і судовую. Ніякай іншай мадэлі дэмакратыя ў сьвеце ня ведае. Канстытуцыя надала Вярхоўнаму Савету, і толькі яму, права прымаць законы, вяршыць заканадаўства, вызначаць кірунак і зьмест дзяржаўных рэформаў і пэрспэктываў, пакінуўшы некаторым іншым дзяржаўным структурам права заканадаўчай ініцыятывы (што таксама правільна). Вярхоўны Савет з такімі паўнамоцтвамі можа фармавацца толькі воляй народа, падчас выбараў. Гэта таксама знайшло адлюстраваньне ў Асноўным законе.

Аднак па сапраўднаму народу гэтага ніхто не патлумачыў. Законаў, якія абавязаныя былі б забясьпечыць ягонае вышэйшае права вызначаць праз сваіх прадстаўнікоў у ВС усю дзяржаўную палітыку, дэмакраты прыняць не пасьпелі, а тыя, хто прыйшоў ім на зьмену – і не зьбіраліся. Малу-памалу наогул усё перавярнулася ў нас дагары нагамі. Цяпер, як вядома, адзін чалавек, што прыняў (праз рэфэрэндум, нідзе ў сьвеце не прызнаны) "новую канстытуцыю", усё й за ўсіх вызначае. Такі ж бездапаможны прапануецца нам выбраць увосень новы парлямэнт (ці дэпутацкую палату). Але тое будуць "выбары бяз выбараў", якія добра вядомыя нам па папярэдніх савецкіх гадах. І той з нас, хто прыме рашэньне прыняць у іх удзел, мусіць ведаць, што вартасных адрозьненьняў гэтыя выбары ад тых, савецкіх – ня маюць. На тых жа ўчастках будзе грымець музыка, у буфэтах будуць даваць дзяшовы дэфіцыт, у бюлетэнях будзе стаяць адзінае прозьвішча кандыдата, якога ўлада "ужо выбрала". І, на жаль, з той жа абыякавасьцю большасьць выбаршчыкаў аддасьць свае галасы, нават не пазіраючы ў бюлетэні.

Такая сытуацыя ў палітычным сэньсе называецца "гістарычнай петляй". Гэта калі грамадзтва і краіна, ступіўшы крыху наперад, ізноў вяртаюцца назад, да свайго горшага этапа. Так не хацелася б, каб мы патрапілі ў гэтую петлю трывала...

***Алена КЛІМОВІЧ,*** *гісторык*

## ВЫБАРЫ – 2000. КАНЦЭПЦЫЯ. ЗЬМЕСТ. ПРАКТЫКА




# Міжнароднае назіраньне: умяшальніцтва ці дапамога?

Час ад часу цяперашняя ўлада й набліжаныя да яе няўтаймаваныя прапагандысты робяць гучныя заявы на тэму "умяшальніцтва ў нашыя ўнутраныя справы". Звычайна гэта адбываецца пасьля таго, як чарговыя факты парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі становяцца агульнавядомымі.

Сярод непадрыхтаваных чытачоў дзяржаўнае прэсы, а таксама слухачоў і гледачоў манапалізаваных уладаю радыё й тэлебачаньня падобныя заявы знаходзяць добразычлівую рэакцыю й прававуюць салідарную з уладай крыўду на Захад, які, быццам бы, практыкуе "падвойныя стандарты" у дачыненьнях з нашай краінай.

Дасьведчаная, сьвядомая частка грамадзтва ведае, што Беларусь даўно і трывала "завязла" у міжнароднай прававой прасторы. Трэба нагадаць хаця б аб тым, што подпіс нашай краіны стаіць пад самым галоўным пасьляваенным сусьветным актам аб утварэньні ААН. У наступныя гады мы далучыліся яшчэ да шэрагу дамоваў, якія вызначаюць правы й абавязкі бакоў у галіне выкананьня й абароны правоў чалавека. Гэтае далучэньне было **добраахвотным**, мы самі ўсклалі на сябе адказнасьць. І тут трэба асобна зазначыць адно з асноўных палажэньняў падобных дамоваў: абарона правоў чалавека ня ёсьць чымсьці эксклюзыўным (прыватным) правам, роўна – і абавязкам, гэта – агульная справа ўсіх далучыўшыхся дзяржаваў. То бок, любы з удзельнікаў дамовы мае поўнае права актыўна ўмешвацца ўва ўнутраныя справы іншага ўдзельніка ў выпадку парушэньня тым дасягнутых дамоўленасьцяў. Тут дзейнічае просты й зразумелы прынцып: абарона правоў чалавека ня ведае абмежаваньняў і межаў.

Паколькі падпісаньне падобных дамоваў – справа выключна добраахвотная, кожны падпісант у любы час можа дэзавуяваць (адмяніць) свой подпіс й спыніць свой удзел у дамове, выйсьці зь яе. Толькі пасьля гэтага ён мае поўнае ***законнае*** права абвінавачваць каго-небудзь з нагоды "умяшальніцтваў", "падвойных стандартаў" ды іншых замахаў на сваё сувэрэннае права разумець правы чалавека па-свойму.

На першы погляд, справа гэтая не складаная, асаблівых высілкаў ды розуму не патрабуе: паслаў усіх... і рабі ў сваёй краіне што хочаш. Аднак затрымка ў тым, што страты пасьля такога кроку непараўнальна больш значныя за прывідныя выгоды. Бо перад дзяржавай-адступніцай імгненна зачыняюцца ўсе дзьверы ў цывілізаваныя краіны. А ў іх, акрамя дэмакратычных парадкаў, маецца яшчэ, як вядома, сучасная рынкавая эканоміка з навейшымі тэхналёгіямі, аграмаднымі фінансовымі рэсурсамі, рынкамі збыту прадукцыі, інвэстыцыйнымі магчымасьцямі й да т.п.

Цяпер мы знаходзімся на парозе падзеі, якая можа стацца для Беларусі вызначальнай: увосень павінны адбыцца парлямэнцкія выбары. Грамадзка-палітычная атмасфэра вакол іх усё больш напаляецца. Асноўная прычына напругі – упартае нежаданьне ўлады рэфармаваць Выбарчы кодэкс на падмурку агульнапрынятых дэмакратычных прынцыпаў. Гэта, калі казаць аб праблеме "у цэлым". Хапае й іншых дэталяў, што спадарожнічаюць выбарчаму працэсу. Зьвернем хаця б увагу на такі аспэкт гэтае тэмы, як міжнароднае назіраньне за выбарамі.

Захад вызначае выбары сьвятам правоў чалавека. Безумоўна, што так і павінна быць. І таму выбарам неабходная дапамога, нават абарона ад тых, хто намагаецца пераўтварыць іх у нешта іншае й выкарыстаць дзеля сваіх уласных мэтаў згодна прынцыпу: мэта апраўдвае сродкі.

Функцыі дапамогі й абароны выбараў бяруць на сябе назіральнікі. Роля міжнародных назіральнікаў вельмі важная для дзяржавы, якая хоча паказаць, што праз выбары яна прасоўваецца па шляху дэмакратычных рэформаў.

Беларусь намагаецца ўвайсьці ў Агульны эўрапейскі Дом. І эўрапейцы нікольki ня супраць. Аднак яны папярэджваюць: у нашым Доме ўласны статут, па якім у часе выбараў кожная краіна здае своеасаблівы іспыт па дэмакратыі. Эўропа прымае яго праз сваіх назіральнікаў. Улада нашая вельмі жадае, каб міжнародныя назіральнікі прыехалі ў Беларусь, бо самы іхны прыезд – ужо палова прызнаньня выбараў. Але акрамя выказваньня такога жаданьня, іншых патрэбных крокаў насустрач ня робіць. А гэтага для заходніх дэмакратычных структураў недастаткова.

У агульнай структуры АБСЭ ёсьць важкае падразьдзяленьне – Бюро па дэмакратычных інстытуцыях і правах чалавека (БДІПЧ) з штаб-кватэрай у Варшаве. У сваёй працы яно абапіраецца на Ўсеагульную дэклярацыю правоў чалавека, прынятую Генэральнай Асамблеяй ААН у 1948 годзе. Яно адказвае за дзейснасьць правоў чалавека, дэмакратыі й пашырэньне вяршынства закону ўва ўсім рэгіёне АБСЭ. Мы ўваходзім у гэты рэгіён і ў якасьці сапраўднага (пакуль) сябра арганізацыі цалкам падзяляем, падтрымваем й абавязаныя выконваць усе статутныя патрабаваньні АБСЭ.

У згаданым Бюро ёсьць Аддзел па выбарах. Ён мае значныя паўнамоцтвы. У прыватнасьці, акром самое арганізацыі й правядзеньня назіраньня, Аддзел дапамагае арганізоўваць экспэртызы выбарчага (і зьвязанага зь ім) заканадаўства, выказвае рэкамэндацыі па выніках назіраньня за выбарчым працэсам. Дарэчы, Аддзел дэталёва вывучыў матэрыялы назіраньня за беларускім рэфэрэндумам-96, і даў рэкамэндацыю не прызнаваць ягоныя вынікі ў тым фармаце, на якім настойвалі аўтары гэтага мерапрыемства.

Усе назіральнікі за выбарамі, незалежна ад іхняй нацыянальнай палітычнай сыстэмы й сыстэмы выбараў, на працягу назіраньня злучаныя Ўсеагульнай дэклярацыяй, у артыкуле 21-м якой дакладна гаворыцца:

***1. Кожны чалавек мае права браць удзел у кіраваньні сваёй краінай непасрэдна ці праз свабодна абраных прадстаўнікоў. (Гэтае палажэньне ў падобнай рэдакцыі перанесенае ў "абедзьве" Канстытуцыі Беларусі).***

***2. Воля народа павінна быць асновай улады ўраду; гэтая воля павінна ўвасабляцца праз пэрыядычныя й нефальсыфікаваныя выбары...***

Зыходзячы з вышэйпрыведзенага, АБСЭ лічыць, што назіраньне за выбарамі – гэта эфэктыўная паслуга, якую дзяржавы-удзельніцы АБСЭ забясьпечваюць дзеля прасоўваньня й узмацненьня дэмакратычнага ладу. Назіральнікі абавязаныя даць ацэнку выбарам у адпаведнасьці з правіламі АБСЭ. Найперш гэтыя правілы павінны быць адлюстраваныя ў Канстытуцыі краіны, а таксама ў законе аб выбарах, у законе аб паводзінах палітычных партыяў падчас выбараў (такога асобнага закону ў нас наогул няма), у законе аб СМІ (гэты ў нас ёсьць, аднак вельмі "дапоўнены й выпраўлены" не ў дэмакратычны бок). Эўрапейцы падчас выбараў надаюць першасную ўвагу палітычным партыям. Нашыя стваральнікі законаў таксама гэтым "турбуюцца": як бы зрабіць, каб вагу палітычных партыяў, асабліва апазыцыйных, зьвесьці да чыста сымбалічнай. І пакуль яны ў гэтай справе маюць посьпех. Вось толькі чым усё гэта скончыцца? Бо зусім невыпадкова ў правілах АБСЭ абазначана: "БДІПЧ ня мае на мэце назіраць за выбарамі, падчас якіх абавязацельствы перад АБСЭ не адлюстраваныя ў існуючым заканадаўстве і правілах".

Тут не залішнім будзе нагадаць, што АБСЭ ўжо правяла экспэртызу нашага новага Выбарчага кодэксу, вынікам чаго былі высновы аб неадпаведнасьці гэтага закону дэмакратычным прынцыпам. Нават калі ўладам і пашчасьціць "заманіць" міжнародных назіральнікаў на нашую сувэрэнную тэрыторыю з дапамогаю шматлікіх абяцаньняў "усё выправіць й прывесьці ў адпаведнасьць", то й на гэты выпадак АБСЭ папярэджвае: "БДІПЧ ня згоднае з пунктам погляду, што простая прысутнасьць назіральнікаў забясьпечвае легітымнасьць выбарчага працэсу. Меркаваньне аб выбарах ствараецца на падмурку мэтадалёгіі назіраньня й далейшых высноваў". Такім чынам бяру на сябе сьмеласьць сьцьвярджаць, што ніякія ўладныя арганізацыйна-прапагандысцкія манэўры вакол выбарчай тэмы не дадуць ёй жаданых вынікаў. Прычына простая: эўрапейцы "закасьцянелыя" у сваім дэмакратычным сьветаўспрыманьні, яны народжаныя й выхаваныя ў асяродку, дзе неабходнасьць дзейнічаць паводле існуючых законаў ня проста звычай, але генэтычная неабходнасьць. Калі ім давядзецца так ці йнакш назіраць за нашымі выбарамі й рабіць аб іх свае высновы, ня ўспрымуць яны аніякіх заклінаньняў на тэму "асаблівасьцяў беларускага пераходнага пэрыяду", "мэтазгоднасьці бягучага моманту", "непадрыхтаванасьці грамадзтва й партыяў" і да т.п...

Скажам праўду самім сабе: сёньня мы не гатовыя да прыняцьця бескарыснай дапамогі ад людзей і дзяржаваў, якія намнога вышэй нас па свайму дэмакратычнаму разьвіцьцю. Пакуль што ў іхняй спробе дапамагаць мы бачым толькі "умяшальніцтва ў нашыя ўнутраныя справы". Гэта – клясычны прыклад "фэлахскай" псыхалёгіі першабытнага селяніна-уласьніка, які бачыць вакол сябе выключна ворагаў, што намагаюцца захапіць ягонае "дабро" і жыцьцёвую прастору.

І ўсё ж, незалежна ад нашага жаданьня, назіраць за намі будуць. Гэта як доктар сочыць выпраўленьне цяжка й даўно хворага пацыента. Але шкада, што гэты працэс будзе адбывацца скрозь халодную шчаліну пабудаванай з нашага боку жалезнай заслоны.

***Георгі ЛІСОЎСКІ,*** *публіцыст*

# Праграма тэлебачаньня з 14 па 20 жніўня

## •• Понедельник, 14 августа ••

Праграму тэлеканалаў
мы друкуем на замову чытачоў.
Гаспадары праграмы
падаюць нам яе на расейскай.
Рэдакцыя фізычна (па часе)
не пасьпявае яе перакласьці.
Просім разглядаць гэтыя старонкі
як тэхнічна-службовы матэрыял,
які ня мае дачыненьня да зьместу
й характару нашай газэты.

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.55 Новости.
8.00 Резонанс.
9.10 Потребительская корзина.
9.25 «Сегодня с вами».
9.50 Здоровье.
10.15 «Однажды летом». Музыкальная сказка.
10.40 Теленавигатор.
11.10 «Все мои дети».
11.55 «Судьба человека».
12.25 «Танго. Танго».
14.30 «Три истории с телефоном». Худ.фильм.
15.10 «Четыре танкиста и собака».
16.07 «А музыка звучит...»
16.37 Авто-парк.
16.47 Премьера песни.
17.10 Столица.
17.40 Док. фильм.
18.00 Сериал «Сити».
18.44 МСН.
19.15 Политические диалоги.
19.50 «Все мои дети».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 Детектив «Альбина Аллигатор».
23.25 Третий тайм.
0.05 Криминальная хроника.

### ОРТ

13.30 «Вместе».
14.00, 17.00, 23.10 Новости.
14.20 Мультсериал.
14.40 Звездный час.
15.10...До шестнадцати и старше.
15.45 Вкусные истории.
15.55 «Вавилонская башня».
17.30 Клуб «Белый попугай».
18.15 Худ. фильм «Пароль знали двое».
20.00 Время.
20.45 «Тысячелетие».
21.40 В. Цой в фильме «Игла».
23.25 «Паранормальные явления. Закрытое досье».

### РТР

7.00, 8.00, 10.00, 16.00, 19.00 Вести.
7.30 Семейные новости.
7.40, 8.20 Доброе утро, Россия.
8.15 Черным по белому.
8.35 Мультсериал.
9.00 «Мануэла».
10.35 «Санта-Барбара».
16.30 «Сам себе режиссер».
17.00 «Графиня де Монсоро».
18.00 «Комиссар Рекс».
19.30 Дежурная часть.
19.50 «История любви».
21.55 «Следствие ведут знатоки».
23.35 «Колизей».

### НТВ

5.00 Сегодня утром.
7.55 «Неприкасаемые».
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
9.25 «Любовь и тайны Сансет Бич».
11.25 Худ. фильм «Торпедоносцы».
13.30 Криминал.
14.00 «Голубое дерево».
15.30 Намедни-73.
16.30 Впрок.
16.40 Футбольный клуб.
17.40 Криминал.
18.35 «Три мушкетера».
20.25 Док. сериал. «XX век. Русские тайны».
21.45 Тушите свет.
22.00 «Крутой Уокер: правосудие по-техасски».
23.05 «Антропология».

### КУЛЬТУРА

11.30, 13.30 Новости культуры.
11.40 Короткометражный худ. фильм.
12.15 Программа-призер «Красная книга».
12.30 «Штрафники». Док. фильм. Часть 2-я.
13.45 «Жил-был хомяк».
14.10 Вместе с Фафалей.
14.20 Мультфильмы.
14.40 Телеэнциклопедия.
15.00 Новости.
15.10 Мультфильмы.
15.50 Кто мы? «Хроника смутного времени».
16.15 Магия Жизели.

### «МОГИЛЕВ-1» НА БТ

13.10 Пунктир.
13.40 «Сегодняшние достижения — гарантия будущего».
14.05 Видеодром.

### «МОГИЛЕВ-1»

8.00 Астро-дайджест.
8.10 «Саманта». Телесериал.
9.00 «Сейлормун снова с нами». Мультсериал.
9.25 «Марс атакует!» Комедия.
16.30 «Таггерт». Телесериал.
17.20 Мультфильм.
17.30 «Путешественники во времени». Док. сериал.
17.55 «Праздник в вашем доме».
19.00 Тяжелый день.
19.20 Телемагазин.
19.30 День области.
20.00 «Праздник в вашем доме».
21.00 «Леди Макбет Мценского уезда». Худ.фильм.
22.20 Астро-дайджест.
22.25 «Идеальное преступление». Драма.

### 2-Й КАНАЛ

7.00 «Энергетический завтрак».
8.10 Боевик «Боеголовка».
9.55 Телемагазин.
10.15 «Все в сад».
10.40 Телемагазин.
11.05 «Катастрофы недели».
15.00 ТВ на польском.
18.00 «Победоносный голос верующего».
18.30 Муз.антракт.
18.45 «Фантастические существа. Оборотни». Док. фильм.
19.10 Мультфильм.
19.30 «Поздравления».
20.15 «В гостях у бабки Агапки».
20.30 «Поздравления».
21.20 Высокая мода.
21.30 «Белый викинг». Худ. фильм.
23.05 Спортивная программа.

## •• Вторник, 15 августа ••

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.55 Новости.
8.10 Политические диалоги.
8.40 Потребительская корзина.
9.10 Мультсериал «КОАПП».
10.10 «На волне взаимопонимания».
11.10 «Все мои дети».
11.55 «Одиссея команды Кухто».
12.25 Третий тайм.
13.10 «Семь маленьких рассказов о первой любви». Худ. фильм.
14.15 Туробъектив.
15.15 «Четыре танкиста и собака».
16.15 Док. фильм.
17.10 Телефильм.
17.30 «Напевы земли белорусской».
18.00 Сериал «Сити».
18.44 МСН.
19.15 Ток-шоу «Будни».
20.00 «Все мои дети».
20.47 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 Худ.фильм «Точка отсчета».
23.25 «Музыка без границ».
0.05 Криминальная хроника.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.20 Новости.
8.15 «Вавилонская башня».
9.15 Здоровье.
9.45 Колесо истории.
10.30 «Компьютерные войны».
13.30 «Вместе».
14.20 Мультсериал.
14.40 Царь горы.
15.10...До шестнадцати и старше.
15.45 Вкусные истории.
15.55 «Вавилонская башня».
17.30 Худ. фильм «Хищники».
19.15 Жди меня.
20.00 Время.
20.45 «Полная безопасность».
21.40 Звезда по имени Солнце. 10 лет спустя.
22.10 В. Цой и группа «Кино». 5 мая 1990 года.
23.35 «К востоку от рая».
0.40 «Затерянные на земле».

### РТР

7.00, 8.00, 10.00, 16.00, 19.00 Вести.
7.30 Семейные новости.
7.40, 8.20 Доброе утро, Россия.
8.15 Черным по белому.
8.35 Мультсериал.
9.00 «Мануэла».
10.35 «Санта-Барбара».
16.30 «Сам себе режиссер».
17.00 «Графиня де Монсоро».
18.00 «Комиссар Рекс».
19.30 Дежурная часть.
19.50 «История любви».
22.00 «Следствие ведут знатоки».
23.55 Мелодрама «Улица Канареек».

### НТВ

5.00 Сегодня утром.
7.55 «Крутой Уокер: правосудие по-техасски».
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
9.25 «Любовь и тайны Сансет Бич».
11.25 Комедия «Блондинка за углом».
13.30 «Я и моя собака».
14.00 «Голубое дерево».
15.30 Намедни-74.
16.30 Впрок.
16.40 «Она написала убийство».
17.40 Криминал.
18.35 «Три мушкетера».
20.25 «Один день».
21.45 Тушите свет.
22.00 «Крутой Уокер: правосудие по-техасски».
23.05 «Антропология».

### КУЛЬТУРА

11.30, 13.30 Новости культуры.
11.40 «Кочубей». Худ. фильм.
13.45 «Жил-был хомяк».
14.10 Вместе с Фафалей.
14.20 «Красная книга».
14.40 Телеэнциклопедия.
15.00 Новости.
15.10 Мультфильмы.
15.45 Кто мы?
16.10 Серебряный век.

### «МОГИЛЕВ-1» НА БТ

14.35 Тяжелый день.

### «МОГИЛЕВ-1»

6.30, 7.10 «Ранехонько!»
7.00 «Навіны ра-ніцы».
8.05 «Саманта». Телесериал.
8.50 «Сейлормун снова с нами». Мультсериал.
9.15 «Идеальное преступление». Драма.
16.30 «Таггерт». Телесериал.
17.15 Мультфильм.
17.30 «Путешественники во времени». Док. сериал.
17.55 «Праздник в вашем доме».
19.00 Бобруйский вариант.
19.20 Телемагазин.
19.30 День области.
20.00 «Праздник в вашем доме».
21.00 «Только ты». Телесериал.
21.45 Астро-дайджест.
21.50 «Мужчина как женщина». Комедия.

### 2-Й КАНАЛ

7.00 «Энергетический завтрак».
8.10 Комедия «Лихая парочка».
9.45 Телемагазин.
10.10 «Вавилон-5».
11.00 Сериал «Морская полиция».
11.50 Телемагазин.
15.00 ТВ на польском.
18.00 «Победоносный голос верующего».
18.30 Мультфильм.
18.40 «Пляж» Телесериал.
19.25 «Поздравления».
21.00 Док. фильм.
21.25 Высокая мода.
21.35 «Последние дни Фрэнки» Худ.фильм.
23.15 Спортивная программа.

## •• Среда, 16 августа ••

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.00 Новости.
8.15 «Сегодня с вами».
8.40 Потребительская корзина.
9.10 Мультфильмы.
9.35 «Око».
9.55 Компьютерный полигон.
10.15 Столичный хит.
11.15 «Все мои дети».
12.00 Ток-шоу «Будни».
12.45 «Ворон». Киноочерк.
13.15 Видимо-невидимо.
15.13 «Четыре танкиста и собака».
16.05 Мультфильм.
16.25 «Банановый остров».
17.10 Док. фильм.
17.30 «Макаенка, 9».
18.00 Сериал «Сити».
18.44 МСН.
19.15 Лотерея «Толока».
19.25 «Наши песни».
19.55 «Все мои дети».
20.42 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 Комедия. «Паспорт».
23.30 Королевская охота.
0.10 Криминальная хроника.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.25 Новости.
8.15 «Вавилонская башня».
9.15 Пока все дома.
9.50 Жди меня.
10.30 «Компьютерные войны».
13.30 «Вместе».
14.20 Мультсериал.
14.40 Зов джунглей.
15.10...До шестнадцати и старше.
15.45 Вкусные истории.
15.55 «Вавилонская башня».
17.30 Диагноз для Чикатило.
17.50 Футбол. Сборная России — сборная Израиля. В перерыве:
18.50 Греко-римская борьба.
20.00 Время.
20.45 «Полная безопасность».
21.40 «Как стать Наполеоном».
22.40 «Цивилизация».
23.10 «К востоку от рая».
23.55 «Затерянные на земле».

### РТР

7.00, 8.00, 10.00, 16.00, 19.00 Вести.
7.30 Семейные новости.
7.40, 8.20 Доброе утро, Россия.
8.15 Черным по белому.
8.35 Мультсериал.
9.00 «Мануэла».
10.35 «Санта-Барбара».
16.30 «Сам себе режиссер».
17.00 «Графиня де Монсоро».
18.00 «Комиссар Рекс».
19.30 Дежурная часть.
19.50 «История любви».
22.00 «Следствие ведут знатоки».
0.05 Прикл. фильм «Африканский лев».

### НТВ

5.00 Сегодня утром.
7.55 «Крутой Уокер: правосудие по-техасски».
8.40 Мультфильм.
15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
15.30 Намедни-75.
16.30 Впрок.
16.40 «Она написала убийство».
17.40 Криминал.
18.35 Худ. фильм «Большая семья».
20.20 Криминальная Россия.
21.45 Тушите свет.
22.00 «Крутой Уокер: правосудие по-техасски».
23.05 «Антропология».

### КУЛЬТУРА

11.30, 13.30 Новости культуры.
11.40 «Веселые Расплюевские дни». Худ. фильм.
13.05 «Красная книга».
13.45 «Жил-был хомяк».
14.10 Вместе с Фафалей.
14.20 Мультфильмы.
14.40 Телеэнциклопедия.
15.00 Новости.
15.10 Мультфильмы.
15.45 Кто мы?
16.10 Серебряный век.

### «МОГИЛЕВ-1» НА БТ

14.25 Бобруйский вариант.
14.45 Мультфильм.

### «МОГИЛЕВ-1»

6.30, 7.10 «Ранехонько!».
7.00 «Навіны раніцы».
8.05 «Саманта». Телесериал.
8.50 «Сейлормун снова с нами». Мультсериал.
9.15 «Мужчина как женщина». Комедия.
16.30 «Таггерт». Телесериал.
17.20 «Железный фактор».
17.55 «Праздник в вашем доме».
19.20 Телемагазин.
19.30 День области.
20.00 «Праздник в вашем доме».
21.00 «Только ты».
21.50 Астро-дайджест.
21.55 Спорт планеты.

### 2-Й КАНАЛ

7.00 «Энергетический завтрак».
8.10 Худ.фильм «Последние дни Фрэнки».
9.50 Док. фильм.
10.15 Мультфильм.
11.35 «Музыкальная пауза».
15.00 ТВ на польском.
18.00 «Победоносный голос верующего».
18.30 Муз.антракт.
18.40 Док. фильм.
19.05 Мультфильмы.
19.30, 20.30 «Поздравления».
20.15 «В гостях у бабки Агапки».
21.20 Высокая мода.
21.30 Худ.фильм. «Мои счастливые звезды-2».
23.05 Спорт. программа.

## •• Четверг, 17 августа ••

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.25 Новости.
8.15 «Цена победы». Док. фильм.
8.40 Потребительская корзина.
9.10 Королевская охота.
9.40 Док. фильм.
9.55 Мультиклуб.
10.25 Дом кино.
11.15 «Все мои дети».
12.00 «Наши песни».
12.30 Док. фильм.
13.15 Комедия «Покровские ворота».
14.27 «Дикая природа».
15.10 «Четыре танкиста и собака».
16.07 V Международный фестиваль православных песнопений.
17.10 Арсенал.
17.35 Усадьба.
18.00 Сериал «Сити».
18.44 МСН.
19.15 «Премьер-парад».
19.40 «Купаловцы: взгляд сквозь время».
19.55 «Все мои дети».
20.42 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 Худ.фильм. «Из жизни отдыхающих».
23.10 «Крок».
23.35 Криминальная хроника.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.25, 23.25 Новости.
8.15 «Вавилонская башня».
9.15 Смехопанорама.
9.50 Человек и закон.
10.30 «Компьютерные войны». Закл. серия.
13.30 «Вместе».
14.15 Мультсериал.
14.40 «100%».
15.10...До шестнадцати и старше.
15.45 Вкусные истории.
15.55 «Вавилонская башня».
17.30 «Каламбур».
18.00 Комедия «Нежный полицейский».
20.00 Время.
20.45 «Полная безопасность».
21.40 «Как быть Наполеоном».

